# Рэгіянальная газета. Rh.by

тыдзень



27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 лютага 2016 года №6 **(1084)**


Адна зямля

Мядзел

Астравец

Ашмяны

## Садаводам і агароднікам

## Месяцавы каляндар на 2016 год па культурах

старонкі 8-9



## Новы фармат праграмы тэлебачання ў "РГ".

## Цяпер памерам А3, і каналы падзеленыя на тэматычныя блокі

старонкі 15-22

## Скульптура Маці, новыя паляны, ружоўнік: што яшчэ можа з'явіцца ў гарадскім парку Вілейкі

старонка 3

# "Рабочыя "Будаўніка" не вінаватыя ў тым, што мы трапілі ў абцугі"

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.

● ТЭМА НУМАРА

# “Рабочыя “Будаўніка” не вінаватыя ў тым, што мы трапілі ў абцугі”

МАЛАДЗЕЧНА

**На прадпрыемстве “Будаўнік-169” цяпер працуе 86 чалавек, але на працу 25 студзеня выйшлі 27.**



Фота Наталлі ТУР.

У сераду, 27 студзеня, работнікі “Будаўніка-169” і іншых будаўнічых арганізацый занятыя на рамонце інтэрната па вуліцы Францішка Скарыны.

> – Будаўнічых арганізацый у Маладзечне многа, і, вядома, працы хапае не ўсім. Тэндары выйграваюць праверaныя арганізацыі, якія не дапусцяць здачы аб’ектаў не ў тэрмін.

А 23 работнікі ў панядзелак засталіся ў інтэрнаце, каб сустрэцца з “Рэгіянальнай газетай”:

– Набалела! – адказваюць людзі. – Распусціце вы гэту кантору. Што гэта за работа, калі на ёй трымаецца адзін інтэрнат.

А дырэктар “Будаўніка-169” **Аляксандр Карнейчык** скардзіцца на тое, што ў горадзе ім не даюць аб’екты для будаўніцтва.

### З прадпрыемства татальна выжываюць людзей

З такімі словамі ў рэдакцыю прыйшоў муляр, работнік “Будаўніка-169” **Даніла Нужын**. Мужчына, бацька траіх дзяцей, скардзіцца на тое, што не памятае, калі апошні раз атрымоўваў заробак цалкам.

– Кінуць 200-500 тысяч адчэпных, а потым здзіўляюцца, чаму мы не плацім за камунальныя паслугі, за інтэрнат. Адказваю так: “Няма заробку, няма аплаты”. А цяпер кіраўніцтва абавязала яшчэ рамонт у інтэрнаце за свой кошт рабіць.

> **Пражыванне ў блоку інтэрната на сям’ю абыходзіцца ў 480 тысяч рублёў у месяц.**

Многія рабочыя падпрацоўваюць па дагаворы падраду, шукаюць нешта на баку.

– Людзі трымаюцца толькі за інтэрнат. Пры спробе пагутарыць з кіраўніцтвам, чуем толькі адно: “Не падабаецца, ніхто вас не трымае. Вызваляйце інтэрнат.”

Пры гэтым, прызнаецца Даніла, праца ў іх ёсць. Перад Новым годам усе супрацоўнікі “Будаўніка-169” працавалі на будаўніцтве жылога дома ў Мінску. Аднак за гэту работу не атрымалі нічога.

– Мы спраўна атрымоўваем толькі разліковыя лісты.

Данілу падтрымалі і іншыя работнікі. Людзі скардзяцца на тое, што не атрымалі заробак за снежань, што многім адпускныя так і не выплацілі. На прадпрыемстве нармальная сітуацыя, калі чалавек выходзіць з адпачынку, а яго заробачваюць дадому ў адпачынак за свой кошт.

На пытанне, ці спрабуе хто ўладкавацца на іншую работу, людзі абураюцца:

– А як гэта зрабіць? Многія фірмы не хочуць браць без працоўнай кніжкі. А зволніцца адсюль – значыць, згубіць інтэрнат. А ва ўнівермагу палаткі не прадаюцца, – дзе тады жыць?

Інтэрнат па вуліцы Францішка Скарыны – для работнікаў “Будаўніка-169” сапраўдны боль.

Многія не могуць выплаціць запазычанасць за пражыванне, таму што няма чым плаціць.

– Я дзесяць гадоў адпрацаваў у “Камунальніку”, каб атрымаць блок у інэрнаце, – кажа адзін з работнікаў, – а цяпер мне пагражаюць высяленнем. А як мне разлічыцца з даўгамі, бутэлькі пайсці збіраць?

Выйсце з сітуацыі работнікі бачаць толькі ў тым, каб іх інтэрнат перадалі “Камунальніку”, як і многія іншыя інтэрнаты прадпрыемстваў у горадзе.

### Дырэктар “Будаўніка-169”: хочуць працаваць у іншых месцах – калі ласка

Кіраўніцтва “Будаўнік-169” змянілася ў верасні 2015 года. Цяпер прадпрыемства ўзначальвае Аляксандр Карнейчык.

– Калі я прыйшоў сюды, у работнікаў была запазычанасць па заробках ад мая. На сённяшні ж дзень мы не разлічыліся толькі за снежань.

Сітуацыю з тым, што за лістапад работнікі атрымалі толькі частку зарплаты, Аляксандр Карнейчык патлумачыў, што гэта было толькі адзін раз. На рахунак паступіла 30 мільёнаў рублёў:

– Нашто нам было трымаць гэтыя грошы і чакаць пералічэння астатніх? Мы вырашылі даць людзям хаця б драбязу. Усе ж лепш, чым нічога.

Аляксандр Леанідавіч разумее, што становішча на прадпрыемстве не простае. Таму і ідзе насустрач людзям, калі яны просяць адпусціць іх працаваць у іншыя арганізацыі. Кіраўніцтва “Будаўніка-169” атрымоўвае хадайніцтва ад той установы, што прымае на работу спецыяліста і па законе адпускае свайго работніка.

– Я толькі не разумею, чаму нам ўлады не даюць будаваць аб’екты ў Маладзечне.

“Будаўнік-169” уваходзіць у асацыяцыю “Маладзечнабуд”. У склад гэтай асацыяцыі акрамя “Будаўніка-169” уваходзяць яшчэ чатыры прадпрыемствы: “Будаўнік-197”, “Спецбудмеханізацыя”, “Маладзечнажалезабетон” і “Аддзелачнік-198”.

У тэндары на будаўніцтва жылых дамоў удзельнічала “Спецбудмеханізацыя”, таму што ў іх колькасць работнікаў дазваляла гэта рабіць. Па ўмовах тэндару, у ім маглі прымаць удзел арганізацыі, у якіх больш за 200 рабочых. А “Будаўнік-169” павінны быў быць у якасці субпадрадчыка. Аднак дазволу на ўдзел у тэндары яны не атрымалі.

Каментуе дырэктар “Спецбудмеханізацыі” **Канстанцін Манюк**:

– Няправільна гаварыць, што ўлады не даюць будаваць дамы. Іншая справа, што ўмовы тэндараў выстаўленыя такім чынам, што выйграваць іх у Маладзечне могуць толькі два прадпрыемствы: “Забудовабуд” і “ПМК-212”. У заканадаўстве ёсць пункт “і іншае”. І пад гэта “іншае” кожны заказчык прапісвае свае ўмовы, якія мы выканаць не можам. Рабочыя не вінаватыя, што мы трапілі ў абцугі.

У пачатку 2015 года ў “Будаўніку-169” працавала каля 200 чалавек, сёння іх засталося 86.

А між тым, праца ёсць. “Будаўнік-169” будуе жылы комплекс “Маяк Мінска”, у Вілейскім раёне будуюць завод фарбаў. Выйгралі тэндар на будаўніцтва ЗАГСа ў Ваўкавыску. Яно павінна пачацца ў сакавіку.

“Будаўнік-169” аказвае паслугі прыватным асобам. У арганізацыі можна замовіць муляра, тынкоўшчыка, аддзелачніка, каб зрабілі рамонт у доме ці кватэры.

Прадпрыемству “Будаўнік-169” розныя арганізацыі вінаватыя паўтара мільярда рублёў.

– Не разлічыліся мінчане, вінаватыя нам грошы Асіповічы. Мы там будавалі аб’ект, аднак грошы за гэта не атрымалі. Вілейка за будаўніцтва малочнатаварнай фермы ў Сцешыцах павінна нам 700 мільёнаў рублёў.

У самога ж “Будаўніка-169” запазычанасць перад іншымі – мільярд 100 мільёнаў рублёў.

– Мы не адмаўляемся ад таго, што сітуацыя няпростая. Але варта было б запытацца ў некаторых работнікаў, чаму яны не хочуць ездзіць у камандзіроўку далей Мінскай вобласці. А скардзіцца ўмеюць усе, – падсумаваў Аляксандр Карнейчык.

Рабочыя “Будаўніка” на словы кіраўніцтва адказваюць так:

– А як без грошай ехаць у камандзіроўку? Там траву есці? Камандзіровачныя ж не плацяць.

### Вадзім Цар: тэндары праводзяцца на агульных умовах

Намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Вадзім Цар** на пытанне аб тым, чаму “Будаўніку-169” не даюць выйграваць тэндар, быў катэгарычны:

– Што значыць не даём будаваць? У тэндарах усе ўдзельнічаюць на агульных умовах, якія прапісаныя ў тэндары. Рашэнне прымае камісія. На трох дамах, якія цяпер будуюцца па вуліцы Снежнай, працуюць маладзечанскія арганізацыі: “Забудовабуд” і “ПМК-212”, якія выйгралі тэндар.

На планёрцы ў райвыканкаме старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** сказаў:

А што рабіць з астатнімі будаўнічымі фірмамі – аб’ядноўваць іх ці ліквідоўваць, Аляксандр Яхнавец папрасіў сваіх намеснікаў падрыхтаваць яму прапановы.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)



Выява забяспечаная стваральнікамі эскізнага праекта.

Такой бачаць частку зоны для адпачынку ў гарадскім парку Вілейкі.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Скульптура Маці, паляны, ружоўнік

## Што яшчэ можа з'явіцца ў гарадскім парку Вілейкі

ВІЛЕЙКА

**Колькі новага з'явілася ў гарадскім парку Вілейкі за год. Пры падтрымцы дабрачыннага фонду імя Прападобнай Еўфрасінні Полацкай, заснавальнікам якога з'яўляецца ўраджэнец Вілейкі Валеры Шумскі, тут з'явіліся некалькі пляцовак: дзіцячая, для воркаўту і заняткаў на трэнажорах. Да абласных "Дажынак" зрабілі аглядную пляцоўку са спускам да Віліі.**

Перакрылі праезд часткі вуліцы Савецкай, якая праходзіць праз парк, каб зрабіць бяспечным знаходжанне тут дзяцей. Выдзелілі добраўпарадкаваную пляцоўку для паркоўкі аўтамабіляў. Усё гэта робіцца згодна з канцэпцыяй развіцця парку аўтарства архітэктара **Людмілы Луцэвіч**.

На гэтым развіццё парку не скончыцца. "РГ" пісала, што да сёлетняга фестывалю моладзевых субкультур збіраюцца пабудаваць скейт-парк на месцы былой танцпляцоўкі.

### Ружоўнік з зонай для адпачынку

Яшчэ ў парку з дапамогай фундатара можа з'явіцца скульптура Маці. Калі ўсё атрымаецца, то размесціцца яна адразу за царквой на добраўпарадкаванай і аздобленай кветкамі і дэкаратыўнымі кустамі паркавай тэрыторыі.

– Лепшага месца не знойдзем. Гэта будзе скульптура, упісаная ў асяроддзе, – кажа начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Галіна Кажарновіч**.

Калі гэтыя планы ўвасобяцца, то давядзецца перанесці адзін дзіцячы атракцыён бліжэй да іншых. Зробяць так, каб стварыць зону дзіцячую, больш шумную і размешчаную далей ад царквы, і зону ціхую, утульную – каля царквы.

**По суседстве з царквой можа з'явіцца зона для адпачынку. Тут плануецца зрабіць ружоўнік, дзе будуць вырошчваць розныя сарты ружаў.**

– Гэтыя мерапрыемствы наменчаныя для таго, каб парк стаў больш утульны, каб з'явіліся лепшыя ўмовы для адпачынку, было дзе спакойна кніжку пачытаць, проста пасядзець, падумаць пра вечнае. Трэба, каб у парку, акрамя спартыўных, дзіцячых, мемарыяльнай зон, была і рамантычная, – дзеліцца Галіна Кажарновіч.

Цяпер над эскізным праектам гэтай зоны працуе творчая моладзь: малады спецыяліст аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама і нават студэнты – будучыя архітэктары. Чакаецца прыезд скульптара, каб сумесна папрацаваць, вырашыць пытанні, якія абавязкова трэба абмяркоўваць з архітэктарамі.

### Новыя дарожкі і паляны

Яшчэ ў парку збіраюцца пракласці дарожкі, якія злучаць функцыянальныя зоны між сабой. Згодна з праектам канцэпцыі, у парку павінны быць таксама паляны, адкрытыя для промняў сонца. Таму працу па спілоўванні дрэў плануюць працягнуць.

– У нейкі час дрэвы высаджваліся без рэкамендацый спецыялістаў, таму маладыя не могуць выжыць, а старыя хварэюць. Газоны ў парку, не бачачы сонца, зусім няякасныя – тлумачыць Галіна Кажарновіч. – Летась запрошаныя спецыялісты зрабілі таксацыю дрэў, дзякуючы чаму цяпер ведаем літаральна кожнае дрэва, якое павінна застацца, а якое трэба спілаваць.

Таксама ў парку з'явяцца новыя лавы, шмат дэкаратыўных кустоў.

Пакуль гэта – толькі планы, падкрэслівае Галіна Кажарновіч. Усе будзе рабіцца зыходзячы з фінансавання.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by



ЛІЧБА НУМАРА

Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

**1389**

столькі адзінокіх пенсіянераў у Маладзечанскім раёне

Паводле намесніка старшыні Маладзечанскага райвыканкама Людмілы Канановіч.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.01 | 4.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 21 365,00 | **21 718,00** |
| Еўра | 23 214,00 | **23 676,00** |
| Злоты | 5 127,83 | **5 387,54** |
| Расійскі рубель | 270,78 | **274,07** |
| Грыўня | 853,45 | **846,71** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 3.02** | | |
| Еўра | 22800/23350 | **23 300/23 700** |
| Долар ЗША | 21100/21500 | **21 400/21 750** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.01 | 3.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **151 300** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 800 | **28 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 900 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 15 000 | **15 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 25 000 | **25 000** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **7 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 54 500 | **54 500** |
| Капуста, 1 кг | 5 500 | **5 900** |
| Морква, 1 кг | 6 500 | **6 500** |
| Баклажаны, 1 кг | - | **70 000** |
| Лімоны, 1 кг | 36 900 | **39 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **27 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 30 000 | **25 000** |
| Ківі, 1 кг | 30 000 | **29 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 500 | **5 500** |
| Памідоры, 1 кг | 30 000 | **37 000** |
| Агуркі, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Перац, 1 кг | 50 000 | **60 000** |
| Вінаград, 1 кг | 36 500 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 24 000 | **24 500** |
| Хурма, 1 кг | 28 500 | **28 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 40 000 | **39 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 900 | **14 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | **25 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 5 000 | **5 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Цягач з паўпрычэпам з’ехаў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва

МЯДЗЕЛ

**Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося пасля 18 гадзін 26 студзеня на аўтадарозе Полацк – Глыбокае – мяжа Літвы паблізу Швакштаў Мядзельскага раёна.**

У аварыю патрапіў цягач “Мэрседэс-Бэнц” з паўпрычэпам.

Па папярэдняй версіі, 59-гадовы кіроўца няправільна выбраў бяспечную хуткасць руху, у выніку не справіўся з кіраваннем. Цягач з’ехаў у кювет і ўрэзаўся ў прыдарожнае дрэва. Затым аўтамашына перакулілася, паведамілі ў ДАІ Мінскай вобласці.

Кіроўцу даставалі выратавальнікі пры дапамозе гідраўлічнага інструмента. Перавозілі на машыне 20 тон мукі, дадалі ў абласным упраўленні па надзвычайных сітуацыях.

Кіроўца з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай, страсеннем мазгоў, пераломам шыйкі сцягна шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## У Мядзеле жанчына ўдарыла сужытніка нажом у грудзі

МЯДЗЕЛ

**У гадзіну ночы 29 студзеня ў міліцыю паступіла паведамленне з Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы.**

Туды шпіталізавалі 37-гадовага жыхара Мядзела з раненнем бакавой паверхні грудной клеткі.

Мужчына жыве разам з 30-гадовай сужыцніцай, яны наймаюць пакой у райцэнтры.

Калі мядзяльчанін прыйшоў з работы дадому, жанчына была нападпітку. З-за чаго, мяркуюць, і ўзнікла сварка.

У выніку жанчына ўдарыла мужчыну нажом у грудзі, прычыніла яму пранікальнае раненне, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі**.

Узбудзілі крымінальную справа за наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Вядзецца следства. Жанчыну затрымалі.

**Аддзел інфармацыі.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Як засцерагчы свае рэчы ад крадзяжу на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце паведамляе, як не стаць ахвярай злачынства:**



- каштоўныя рэчы трымайце пры сабе,
- не пакідайце маёмасць без нагляду,
- не перадавайце свае рэчы незнаёмым людзям,
- не піце спіртное ў цягніку, на вакзале,
- не давайце тэлефон незнаёмым людзям,
- не спіце ў цягніках і залах чакання, асабліва калі маеце каштоўныя рэчы ці грошы,
- не дэманструйце, куды кладзяце мабільны тэлефон ці грошы,
- не пазначайце пароль на банкаўскай картцы,
- калі выходзіце з цягніка, прасачыце, ці забралі свае рэчы,
- падчас паездкі ці на вакзале старайцеся не абмяжоўваць пільнасць навушнікамі з музыкай.

Калі вы сталі ахвярай ці сведкам злачынства на чыгунцы, просім звяртацца ў аператыўна-дзяжурную службу па нумары **(80176) 74-24-16**.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага АУСТ.**

ПРЫСУД

# Знайшлі тых, хто патрабаваў грошы быццам бы за порна на камп’ютары




Такое паведамленне з’яўлялася на маніторы карыстальнікаў. Чытачы паведамлялі, што гэткія выпадкі фіксаваліся і ў нашым рэгіёне.

Цяпер узбудзілі крымінальную справу. У якасці фігурантаў праходзяць пяцёра мужчын.

– Падазраваныя са снежня мінулага года па студзень гэтага выкарыстоўвалі шкоднаснае праграмнае забеспячэнне. І пад лагатыпам Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі рассылалі апавяшчэнне аб накладанні адміністрацыйнага спагнання ў памеры ад 400 тысяч да аднаго мільёна рублёў за прагляд і захоўванне відэаматэрыялаў, якія змяшчаюць элементы парнаграфічнага характару, – расказала афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Тацццяна Беланог**.

Для аплаты штрафу прапаноўвалі перавесці грашовыя сродкі на балансы нумароў аднаго з беларускіх аператараў сотавай сувязі.

Падманулі каля 380 чалавек. Прычыненая шкода перавысіла 500 мільёнаў рублёў.

Дзеянні падазраваных следства кваліфікавала як махлярства, здзейсненае групай асоб у асабліва буйным памеры. Расследаванне працягваецца.

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота ixbt.com.**

ПРЫСУД

## Ударыў і кінуў да плота – здарэнне ў Даўгінаве

ВІЛЕЙКА

**Жыхар гарадскога пасёлка Бягомль Докшыцкага раёна прыехаў у госці ў вёску Даўгінава на Вілейшчыне. Маладзён быў ужо раней неаднаразовы судзімы. І ў Даўгінаве за дзень да свайго 24-годдзя ён зноў уліп у гісторыю.**

Летась 5 верасня незадоўга да апоўначы каля жылога дома па вуліцы Цэнтральнай умяшаўся ў чужую сварку. Госць быў у нецвярозым стане. У яго ўзнікла перапалка з незнаёмым маладым чалавекам.

Сваркай усё не скончылася. Жыхар Бягомля ударыў мясцовага жыхара кулаком у твар. Ад таго ўдару пацярпелы упаў на зямлю. А маладзён адцягнуў яго ад дарогі і кінуў да плота дома.

У выніку адным ударам прычыніў цялесныя пашкоджанні, расказала памочнік пракурора Вілейскага раёна **Наталля Стрэж.** Пацярпелы знаходзіўся на лячэнні ў Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы.

Крымінальную справу ўзбудзілі за наўмыснае прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання.

Суд адбыўся 18 студзеня. На ім жыхар Бягомля прызнаў сябе вінаватым у злачынстве.

Суд Вілейскага раёна прызначыў яму пакаранне ў выглядзе абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую установу адкрытага тыпу на два гады шэсць месяцаў без штрафу.

На карысць пацярпелага спагналі маральную шкоду ў 15 мільёнаў 500 тысяч рублёў.

Прысуд уступіў у законную сілу.

**Аддзел інфармацыі.**



Развіваць мышцы ног дзецям дапамагае трэнажор-ровар. На ім выхаванцы дзіцячага садка №7 займаюцца з задавальненнем. Некаторыя так круцяць колы, што, здаецца, хутка трэнажор скранецца з месца і паедзе. Фота Галіны СІНІЦЫ.

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# У садку №7 дзяцей прывучаюць да здаровага ладу жыцця

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзеці сёмага дзіцячага садка будуць яшчэ больш здаровыя і больш дужыя. Акрамя звыклых практыкаванняў, яны маюць магчымасць займацца на трэнажорах.**

Іх у спартыўнай зале шэсць: штанга і мяч задзейнічаюць плечавыя мышцы; "паветраная прагулка" і батут развіваюць каардынацыю руху, задзейнічаюць мышцы ног; для ног – бегавы трэнажор, ровар, практыкаванні з пругкім мячом – фітболам задзейнічаюць мышцы брушнога прэса.

– Заняткі фізкультуры праходзяць чатыры разы на тыдзень, – расказвае кіраўнік фізічнага выхавання **Аксана Васільева**. – Два разы – у спартыўнай зале, па адным – на вуліцы і ў басейне.

Заняткі дзеляцца на тры часткі: уводная, асноўная і заключная.

### Падрыхтавацца да нагрузкі

Уводная накіраваная на тое, каб разагрэць мышцы, падрыхтавацца да фізічнай нагрузкі. Напрыклад, спачатку дзеці спакойна ідуць па зале, потым пераходзяць на пяткі, ідуць упрысядкі, махаюць рукамі. Потым – сілавыя практыкаванні ў парах.

**Трэнажоры таксама ёсць у дзіцячых садках №№16, 17, 19 у Маладзечне, а таксама ў чысцінскім дзіцячым садку.**

– Каб адпачыць, дзеці робяць дыхальныя практыкаванні, – дзеліцца досведам кіраўнік фізвыхавання. – Напрыклад, уяўляюць, што надзімаюць шарык, а пасля быццам ён лопаецца. Гэта заданне вельмі вясёлае для дзяцей.

### Рухомыя гульні – частка заняткаў

Падчас асноўнай часткі – заняткі на трэнажорах. На адным з іх дзеці займаюцца некалькі хвілін, потым пераходзяць на іншы. Такім чынам задзейнічаюць усе мышцы.

– Дзецям вельмі падабаецца займацца на трэнажорах, – дзеліцца Аксана Васільева. – Так яны адчуваюць сябе больш дарослымі, а таму і паводзіны ў іх адпаведныя: больш паслухмяныя, дысцыплінаваныя.

Напрыканцы – заданні на расцяжку. Гэта робіцца для таго, каб мышцы не балелі.

– Каб дзецям было цікава, у занятку ўваходзіць элемент гульні, – расказвае Аксана Васільева. – Напрыклад, ім вельмі падабаецца гульня "Сабачка ў норцы". Дзеці становяцца ў круг, ногі трымаюць на шырыні плячэй. Некалькі дзяцей пад музыку бегаюць па крузе. Калі музыка спыняецца, кожны як мага хутчэй павінны забегчы ў норку. Хто не паспеў, мяняецца з тым дзіцем, які ў кружку.

Многія заданні выконваюцца пад музыку, таму ў дзяцей бадзёры і вясёлы настрой.

### Заняткі робяць дзяцей больш уважлівымі

Заняткі не толькі развіваюць сілу, лоўкасць, каардынацыю, але таксама фарміруюць уважлівасць і паслухмянасць. Усе заданні выконваюцца па камандзе трэнера.

У канцы заняткаў кіраўнік фізічнага выхавання пытаецца, наколькі дзецям спадабаліся практыкаванні. Кожны з радасцю дзеліцца сваімі перажываннямі: камусьці падабаецца круціць колы ровара, камусьці больш даспадобы бегаць.

Бацькам кіраўнік фізвыхавання раіць займацца з дзецьмі і дома.

– Цяпер дзеці большасць свайго часу праводзяць каля тэлевізараў, планшэтаў, камп'ютараў, – разважае трэнер па фізвыхаванні. – А сумесныя заняткі фізкультурай, выкананне нават самых простых практыкаванняў загартоўвае дзіця фізічна, паляпшае адносіны з бацькамі.

### Сілу правяраюць скокамі

На занятк ў сёмы дзіцячы садок 29 студзеня завіталі і іншыя кіраўнікі фізічнага выхавання, пасля падзяліліся формамі работы з дзецьмі.

Кіраўнік фізічнага выхавання садка №1 у Маладзечне **Наталля Сезіна** адзначыла, што заняткі на трэнажорах спрыяюць таму, што дзеці становяцца больш дарослымі, ім цікава асвойваць новыя формы працы, знаёміцца са спартыўным абсталяваннем.

– Кіраўнік фізічнага выхавання ў садку павінны прывіць любоў да актыўнага ладу жыцця. Пакуль гэта на несвядомым узроўні. Дзеці, напрыклад, правяраюць сваю сілу і трываласць скокамі.– усміхаецца педагог. – Хто вышэй скокне, той і здаравейшы. У больш свядомым узросце яны будуць наведваць фізічныя гурткі, займацца ў трэнажорных залах. Актыўны лад жыцця прынясе карысць.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

УЗНАГАРОДЫ

# "Рэгіянальную газету" адзначылі дыпломам за новы выгляд газеты

**Цягам 2015 года шведскія трэнеры дапамагалі некаторым беларускім выданням змяніць сваё аблічча. Вынікі курса падвялі ў апошнія дні студзеня.**

"РГ" узнагародзілі дыпломам "За паслядоўнае паляпшэнне знешняга выгляду выдання, найбольш удалае і правільнае выкарыстанне навыкаў, набытых у межах адукацыйнай праграмы "Дызайн і вёрстка газеты".

У адукацыйнай праграме бралі ўдзел дзевяць рэгіянальных грамадска-палітычных выданняў. Асноўным трэнерам стаў шведскі эксперт у галіне друкаваных выданняў **Юнас Сёдэрстром**. Ён наблізіў дызайнераў і фатографаў беларускіх медыя да сусветных трэндаў у СМІ і правёў індывідуальныя кансультацыі з удзельнікамі кожнага выдання.

### Чаму мы мяняемся

Летась мы шмат працавалі над удасканаленнем дызайну газеты.

Як у людзей часам з'яўляецца вельмі натуральная патрэба абнавіць стрыжку ці гардэроб, змяніць парфуму ці колер валасоў, так і ў газет час ад часу з'яўляецца патрэба штосьці ўдасканаліць.

Мяняецца свет, мяняецеся вы, чытачы, мяняемся мы. Верагодна, вы заўважылі, што апошнім часам у газеце стала больш фота вялікага памеру. Не таму, што нам няма чаго пісаць, проста добрае фота гаворыць само за сябе. Часам нават больш зразумела і эмацыйна, чым тэкст. Адбыліся і іншыя змены.

**Калі ў вас дзесьці захоўваецца падшыўка газеты, пагартайце нумары канца 2014 – пачатку 2015 года. Як вы ацэньваеце новы дызайн? Ці значыць ён для вас штосьці?**

Дасылайце свае меркаванні звычайнай поштай на адрас: Вялікі Гасцінец, 68-а. Альбо пішыце на электронную скрыню: regionnews@rh.by. Ці проста завітвайце ў рэдакцыю і дзяліцеся сваімі меркаваннямі.

Рэдакцыя "РГ".

КОНКУРСЫ

# Юныя скрыпачы сталі лаўрэатамі абласнога конкурсу ў Заслаўі

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**Свята музыкі "Заслаўе-2016" адбылося 22 студзеня. Праходзіла яно ў 16-ы раз.**

У межах свята праходзіў абласны конкурс юных выканаўцаў на струнных смычковых інструментах "Заслаўскі сшытак". Удзельнічалі ў ім выхаванцы дзіцячых школ мастацтваў Міншчыны, якія выконвалі творы беларускіх кампазітараў. Узначальваў журы народны артыст Беларусі прафесар **Міхаіл Фінберг**.

На конкурсе вызначыліся навучэнцы Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў. **Яна Мучынская** атрымала Дыплом лаўрэата першай ступені, **Аль-Хлейфат Амраан** – другой ступені. Рыхтавалі пераможцаў **Таццяна Жук** і **Святлана Ражко**.

– Мы вельмі рады гэтай перамозе! – падзялілася Таццяна Жук. – Спадабалася арганізацыя конкурсу. Дыпломы і падарункі дзецям уручаў Міхаіл Фінберг. Дзеці паслухалі выдатны канцэрт з твораў беларускай класікі.

Дыплом лаўрэата трэцяй ступені заваявала яшчэ адна выхаванка Тацціяны Жук – **Карына Мазалеўская**. Яна пяць месяцаў таму пераехала з Вілейкі ў Лебедзева на Маладзечаншчыне і цяпер займаецца ў Лебедзеўскай дзіцячай школе мастацтваў. На конкурсе Карына выконвала твор, які рыхтавала, калі яшчэ вучылася ў Вілейцы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ПАМЯЦЬ

# Ці гатовае сучаснае грамадства да абмеркавання тэмы Галакоста?

МАЛАДЗЕЧНА

**Значэнне 27 студзеня (Дзень памяці ахвяр Галакоста) для сучаснага грамадства абмеркавалі ў гістарычнай майстэрні імя Леаніда Левіна ў Мінску беларускія журналісты і гісторыкі.**

У сераду, 27 студзеня, у гістарычнай майстэрні сабраліся не толькі гісторыкі і журналісты, але і людзі, якіх закранула вайна. Сярод удзельнікаў былі неабыякавыя да тэмы Галакоста людзі.

Падчас сустрэчы былі вынесеныя на абмеркаванне вострыя пытанні сучаснага грамадства.

Прысутныя не саромеючыся выказвалі сваё стаўленне да падзей, якія адбываюцца сёння ў свеце. Спрабавалі адкрыта абмеркаваць пытанне і выказаць свае думкі наконт таго, хто вінаваты ў Галакосце.

Карэспандэнтка "Рэгіянальнай газеты" **Наталля Тур** прадставіла даклад на тэму: "Тэма Галакоста ў публікацыях "Рэгіянальнай газеты". У сваім дакладзе яна падкрэсліла, што газета не імкнецца навязаць сваю пазіцыю ў адносінах да Галакоста, а лічыць важным даць магчымасць гаварыць і расказваць пра перажытае нешматлікім сведкам.

У дакладзе Наталлі Тур прагучалі імёны **Георгія Каржанеўскага**, грамадскага актывіста з Валожына, які змагаўся за тое, каб на месцы расстрэлу яўрэяў не будавалі жылыя дамы. Успомніла **Віктара Кур'яновіча**, сына праведніка свету з вёскі Даўгінава, **Юльяна Кур'яновіча**, які падчас вайны выратаваў яўрэйскую сям'ю.

Бурную рэакцыю ў слухачоў выклікала выступленне псіхолага **Алены Яшчанкі** з тэмай "Перажыванне траўмы на шляху да прымірэння". Беларусь – адна з тых краін, якім яшчэ трэба будзе прыняцце і прызнанне. Бо Галакост – гэта не толькі трагедыя яўрэяў, гэта наша агульная трагедыя.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЕЧАРЫНЫ

# Шкадую толькі аб тым, што так мала распытаўся ў бацькі

МАЛАДЗЕЧНА

**28 студзеня ў Палацы культуры адбылася вечарына памяці Генадзя Каханоўскага.**

22 гады Генадзя Аляксандравіча няма побач з намі, але яго сябры, калегі, знаёмыя, проста неабыякавыя людзі заўсёды знаходзяць час, каб успомніць добрым словам нашага земляка, руплівіца беларушчыны – Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага.

Менавіта такая сустрэча адбылася ў чацвер у Палацы культуры.

Расповед пра жыццёвы шлях Генадзя Каханоўскага чаргаваўся з відэаматэрыяламі пра яго, з расказамі сяброў і калег.

Цяперашняя дырэктарка Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Таіса Лянкевіч** успамінае, што ёй давялося папрацаваць з Генадзем Каханоўскім усяго чатыры месяцы, але гэтага непрацяглага тэрміну хапіла, каб яна запомніла яго як чалавека, які заўсёды дасць параду і выслухае.

І сёння ў сваёй працы музейныя работнікі кожны раз, калі праводзяць экскурсіі, узгадваюць імя Каханоўскага. А як жа інакш расказаць пра тое, што першыя ўспаміны пра Маладзечна адносяцца да 1388 года. Гэту дату якраз і адкрыў Генадзь Каханоўскі. Або як, не успомніўшы яго імя, расказаць пра слуцкі пояс, які захоўваецца ў музеі.

– Мы нядаўна падлічылі, – дзеліцца Таіса Лянкевіч, – што ў нашым музеі каля 300 экспанатаў, якія адшукаў і прывёз у музей Генадзь Аляксандравіч.

**Адам Мальдзіс** дзеля гэтага вечара памяці адмяніў свой удзел у вельмі важным пасяджэнні ў Мінску. Прыехаў, каб расказаць пра сваё знаёмства з Каханоўскім, падарыў сыну, Аляксандру Каханоўскаму, каштоўную кнігу.

– Шаноўнае спадарства! – пачаў сваё выступленне Адам Іосіфавіч, – менавіта так да вас звярнуўся б сам Генадзь Каханоўскі, таму што на сваёй зямлі трэба быць гаспадарамі.

У сваім выступленні сын Генадзя Каханоўскага Аляксандр быў нешматслоўны. Але вельмі шчырымі і шчымлівымі прагучалі яго словы аб тым, што ён вельмі шкадуе, што ў свой час не распытаўся ў бацькі пра многае. І што яго сын Генік, унук Каханоўскага, ужо цяпер цікавіцца тым, кім быў яго дзядуля. Любіць прыязджаць да бабулі ў госці і разглядаць кнігі ў рабочым кабінеце свайго дзядулі.

А былая загадчыца кнігарні "Спадчына" **Любоў Карповіч**, якая выступала амаль напрыканцы сустрэчы, агучыла прапанову, што, можа, ужо варта было б паставіць помнік Генадзю Каханоўскаму.

– А грошы на помнік, я ўпэўненая, дапамогуць сабраць тыя, для каго імя Генадзя Каханоўскага значыць вельмі і вельмі многае, – падсумавала Любоў Карповіч.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**На вечарыне памяці Адам Мальдзіс падарыў Аляксандру Каханоўскаму кнігу.**

# Бяспека пры карыстанні газам у побыце

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак трэба ведаць, што гэта не толькі зручны і эканамічны від паліва. Пры няправільнай эксплуатацыі ён яшчэ і вельмі небяспечны.**

У сувязі з паніжэннем тэмпературы паветра павялічваецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Штогод на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

Пры згаранні газавага паліва, пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортка, няспраўная вентыляцыя), у выніку няпоўнага згарання выдзяляецца чад, які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання ідзе ў спецыяльныя дымавыя каналы (коміны). Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўстаноўлены газавыя прыборы. У выніку гэтага можа адбыцца атручэнне чадам. Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца хуткадзейнай атрутай.

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Зімой гэта можа прывесці да абмярзання агалоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закаркоўвання і, як вынік, – пранікнення чаду ў памяшканне.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, нагадваем:**

– Коміны і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а зімой рэгулярна аглядаць агалоўкі названых каналаў для прадухілення іх абмярзання;

– Коміны і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы: ацяпляльнага газавага абсталявання – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяпляльным сезонам.

праточных газавых воданагравальнікаў – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей за адзін раз у тры месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў гарачаўстойлівага бетону – не радзей за адзін раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, абавязаныя выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану комінаў і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

Перад распальваннем катла ці воданагравальніка неабходна абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале). Памяшканне, у якім устаноўлены газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца. Газавае абсталяванне заўсёды ўтрымлівайце ў чысціні і спраўным стане.

**Забараняецца:**

– уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;

– устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы;

– пакідаць без нагляду ўключаную газавую пліту, а таксама выкарыстоўваць яе для абагрэву памяшканняў;

– самавольна падключаць, адключаць, пераstaўляць, разбіраць і рамантаваць газавае абсталяванне;

– зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў работу прыбораў;

– сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;

– выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавае абсталяванне;

– эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных комінах і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану комінаў і каналаў;

– прымяняць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправоду і газавыкарыстальнага абсталявання;

– карыстацца газавым абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў.

**Газ у сумесі з паветрам – выбуховапажаранебяспечны**

**Адчуўшы пах газу** ў памяшканні, неабходна тут жа перастаць карыстацца газавымі прыборамі, закрыць усе краны на газавых прыборах і краны перад прыборамі ці закрыць вентыль на балоне (пры наяўнасці газабалоннай устаноўкі), адчыніць вокны для скразнога праветрывання памяшкання, пакінуць загазаванае памяшканне, выклікаць (не з гэтага памяшкання) аварыйную брыгаду па тэл. 104. Да прыезду аварыйнай брыгады забараняецца карыстацца адкрытым агнём, курыць, уключаць і выключаць электрапрыборы, электраасвятленне, а таксама допускаць пабочных людзей у загазаванае памяшканне.

За парушэнне "Правілаў карыстання газам у побыце", пры адсутнасці адпаведных актаў праверак комінаў і вентыляцыйных каналаў, газазабеспячэнцкая арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

**Адказнасць за няспраўны стан** газавага абсталявання, вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, за парушэнне патрабаванняў бяспекі пры карыстанні газавым абсталяваннем ускладаецца на наймальніка або ўласніка жылых памяшканняў і дамоў.

**Паважаныя абаненты, ніколі не грэбуйце правіламі бяспекі. Паклапаціцеся пра захаванне свайго жыцця і жыцця сваіх родных.**

ВУ "Маладзечнагаз".

УНП 100008077

ГІСТОРЫЯ

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Ад Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі

*Працяг.*
*Пачатак у №№3,4,5*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

"Інвентар падаткаў староства Маркаўскага з фальваркамі і ўсімі пабудовамі, якія здаўна да яго належалі, зроблены 26 мая 1766 года, праведзены намаганнямі яснавяльможных паноў Лапацінскіх, Неміровічаў, Шчытаў, кашталянікаў ВКЛ, 23 жніўня 1766 года ў прысутнасці Яна Пятровіча, дваранина скарбовага ВКЛ, складзены яснавяльможным Янам Міхалам Грабам, Браслаўскім падскарбіем, вяльможным пісарам зямлі ВКЛ у 1766 годзе 26 верасня, выдадзены і аформлены вяльможным панам Тышкевічавым Коцелам, старастам Маркаўскім у 1766 годзе 25 кастрычніка з належным і поўным апісаннем састаўлены".

Згодна з гэтым інвентаром, у 1766 годзе ў мястэчку Маркава налічвалася дамоў 49, пляцаў розных аседлых 52 1/2 1/4 пляцаў меншых аседлых 17 1/4, шнуроў палявых валочных 160 1/4 1/12, маргоў сенажатных 116 1/2 1/4, з мястэчка гадавога чыншу (арэнды, падатку) дзяржаўнага за ўладанне зямлёй злотых 84, грошаў 22, шэлягаў 1.[3]

**З карчмы староства Маркаўскага мзды дзяржаўнай злотых 800. Як бачым, з карчмы падаткаў бралі ці не ў дзесяць разоў больш, чым з мястэчка.**

На той час у старостве было ўлічана 20 паселішчаў. Акрамя Маркава, гэта вёскі Хатуцічы (Wies Chatucicze) – 13 двароў, Готкавічы (Wies Hodkiewicze) – 10, Вяжуцi (Wies Wiazucie) – 6, Талуі (Wies Taluie) – 5, Скавародкі (Wies Skowrodki) – 9, засценкі (zascianek) Рашчынавае Поле і Перавоз Аляксеeў (на сучаснай карце – насупраць санаторыя "Вяжуцi", адразу за Вяллёй) – па адным двары, Дубава – 4, Курнікі – 2.

У старостве дзейнічалі дзве ўніяцкія парафіі – Маркаўская і Нарачанская. Акрамя месцічаў у Маркаве і ў Нарочы ў старостве пражывалі зямяне, цяглыя людзі і асадныя сяляне.[4]

"Інвентар староства Маркаўскага з фальваркамі, якія да яго належалі ў павеце Ашмянскім, складзенага праз адлюстраванне з сойму Варшаўскага ў 1789 годзе, вызначаны і ніжэй падпісаны ў тым жа годзе ў жніўні з выправаджэннем у фонд састаўлены" вызначаў колькасць зямлі, якая належала сялянам, і іх маёмасць.

У 1789 годзе ў Маркаўскім старостве налічвалася 324 двары, з іх 79 знаходзіліся ў двух мястэчках, Маркаве – 50 і Нарочы – 29. Тут маецца на ўвазе Нароча на рэчцы Нарачанка цяперашняга Вілейскага раёна. Акрамя местачкоўцаў, былі 41 зямянскі і 204 цяглыя двары ў вёсках. Усяго ў іх жыло каля 2400 чалавек. У сярэднім па сем з паловай на адзін двор.

Пасля 1812 года, калі род Коцелаў прыняў удзел на баку Напалеона супраць Расеі з марай аб аднаўленні ВКЛ, усялякае ўпамінанне аб ім выключалася. З расейскага пункту погляду – гэта вораг. Але нягледзячы на такое шматгадовае стаўленне спачатку царскай улады, а затым і савецкай, захавалася добрая памяць месцічаў пра род Коцелаў.



Фота забяспечана Сяргеем КАСМАЧОМ.

Карта Віленскай губерні, складзеная ў Санкт-Пецярбургу ў 1820-1821 гадах.

### У складзе Расійскай імперыі

У лютым 1793 года, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, Маркаўскае староства апынулася ў дзвюх дзяржавах. У Расеі – мястэчкі Маркава, Нарочa і 29 вёсак па левым беразе Нарачанкі. Частка ж Маркаўскага староства з вёскамі Готкавічы, Громавічы, Талуі, Хатуцічы і Іжа (Каралеўцы) з засценкамі засталіся ў Ашмянскім павеце ВКЛ. Да раздзелу ў 1793 годзе староства было ў складзе Літоўскай губерні. Некаторыя часткі староства з фальваркамі, якія да яго належалі, пасля раздзелу адышлі да Мінскай губерні і да яснавяльможнага генерала Бергмана. У Літоўскай губерні засталіся землі беніцкага двара яснавяльможнага пана Коцела і тры часткі староства. Пазначана, што ў адной з частак староства ёсць нямала лесу і шмат таварнага дрэва пад Іжай, прыдатнага да будоўлі, у павеце Завілейскім (Завілейскі павет быў утвораны ў 1791 годзе з цэнтрам у Паставах), таксама нямала лесу пад Талуямі, іншыя землі з усімі засценкамі: Талуі, Громавічы, Дубава, Задні Бор, Ямы, Зевіны, Курнікі.

Такім чынам, староства ў чарговы раз было падзеленае паміж Мінскай губерняй Вілейскага павета і Віленска-Літоўскай (у далейшым – проста Віленскай) губерняй Ашмянскага павета. Граніца праходзіла па Нарачанцы да Вяллі, па цячэнні Вяллі да ўпадзення ў яе Ушы, далей уверх па Ушы, выключаючы Вяжуці, і зноў уверх па Ушы, за месцам упадзення ва Ушу Глінаўкі (цяпер – Нявежа, працякае каля вёскі Мароські) – рэзка па прамой на поўдзень праз дарогу з фальварка Пруды на Лебедзева да Хатуцічаў і, не даходзячы да вёскі, паварочвала ў бок дарогі паміж Маркавам і Беніцай і далей у бок вёскі Доры цяперашняга Валожынскага раёна.

### Дыяспары ў Маркаве

У Расійскай імперыі пасля захопу новых тэрыторый з'явілася даволі значная група яўрэйскага насельніцтва. Трэба заўважыць, што яўрэйская і татарская дыяспары з'явіліся на нашых землях яшчэ па запрашэнні Вітаўта. Не ведаючы, што з імі рабіць, як будаваць адносіны дзяржаўнага праваслаўя з юдаізмам, Кацярына II на ўсялякі выпадак сваім указам увяла з 1794 года лінію аседлага жыхарства для яўрэйскіх насельнікаў. Перад апошнім падзелам Рэчы Паспалітай у 1795 годзе там жыла ці не палова ўсяго тагачаснага яўрэйскага насельніцтва, якое ўвогуле было ў Еўропе.

**Працяг будзе.**

3) 1 злоты (zlote) = 30 грошаў, 1 грош (grosze) = 3 шэлягі (seliagi).
4) Зямяне – асобая катэгорыя насельнікаў княства, якая несла воінскую павіннасць, г. зн. як бы салдаты запасу. У мірным жыцці частка прафесійных ваякаў дружыны, ці харугвы князя (караля) за добрую службу каралю надзялялася асобымі ўчасткамі зямлі, якія знаходзіліся за межамі (за сценкай) вызначаных межаў ворнай зямлі гаспадарстваў, уладанняў князя. Адсюль і найменне – «засценак», якое перайшло ў назвы пасяленняў. Засценкі з'яўляліся большай часткай паселішчаў у ВКЛ і з часам некаторыя з іх з аднаго, ці некалькіх двароў выраслі ў вёскі.
У ваенны ж час гэтыя людзі па першым знаку павінны былі са сваёй амуніцыяй пайсці ў войска. Былі вызначаныя нормы з'яўлення ваяк з двара і амуніцыі. Хто – з канём, хто – з кап'ём. Некаторым быў вызначаны, напрыклад, конь – з трох двароў. Жыхары засценкаў мелі пэўныя льготы, якія пазней замацаваліся агульнай назвай, каб адрозніваццa ад іншых, – "шляхта". Часцей жыхары засценкаў былі праваслаўнымі.
Цяглыя людзі – мелі не больш за адну валоку зямлі, неслі (цягнулі) павіннасць перад дзяржавай (старостам), маглі належаць феадалу і ў гэтым выпадку неслі павіннасць і перад ім.
Асадныя сяляне – гэта катэгорыя жыхароў не адбывала паншчыну, плаціла ўстаноўленыя падаткі і несла некаторыя грамадскія павіннасці, якія называліся «гвалтам», тыпу пабудоў дарог, асушальных канаваў, капліц ды іншае.


Сяргей КАСМАЧ,
Маладзечна.

КАЛЯНДАР

### 5 ЛЮТАГА

**1916 год.** Нарадзілася Валянціна Пашкевіч (дзяв. Жукоўская), дзеяч эміграцыі ў Канадзе, аўтар беларускіх падручнікаў і адна з аўтараў "Англійска-беларускага слоўніка".

### 7 ЛЮТАГА

**470 гадоў** з дня нараджэння Фёдара Еўлашоўскага (1546 – 1619), беларускага грамадскага дзеяча і пісьменніка ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Аўтар аднаго з першых узораў старабеларускай мемуарнай літаратуры – "Дзённіка" (1603–1604). Аўтар вядомага азначэння "Залаты век", якое адносіла, пераважна, да 3-й чвэрці 16 стагоддзя.

**115 гадоў** з дня нараджэння Веры Полы (1901 – 1989), актрысы, народнай артысткі Беларусі, прымы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У 1922–1977 – у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы. Адначасова выступала на эстрадзе як выканаўца беларускіх народных песень. Актрыса яркага камедыйнага таленту. Найбольш значныя ролі: Агата ("Паўлінка" Купалы), Малання ("Кар'ера таварыша Брызгаліна" Міровіча), інш. За выкананне ролі Паўліны ў спектаклі Кандрата Крапівы "Пяюць жаваранкі" атрымала Дзяржаўную прэмію СССР. Знялася ў фільмах "Хвоі гамоняць", "Паўлінка", "Пяюць жаваранкі", "Несцерка". Была жонкай вядомага тэатральнага мастака Барыса Малкіна. Яе вывява змешчаная на канверце Белпошты, які быў выпушчаны да 100-годдзя Веры Мікалаеўны.

**1881 год.** Нарадзіўся Рамуальд Зямкевіч (Варшава), бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, краязнавец, перакладчык. Загінуў у канцлагеры Асвенцім (1943 г. ці 1944 г.).

**1926 год.** У Мінску адбыўся Першы ўсебеларускі краязнаўчы з'езд (доўжыўся да 11 лютага 1926 г.).

### 8 ЛЮТАГА

**130 гадоў** з дня нараджэння Дружчыца (Друшчыца) Васіля Данілавіча (1886 – 1937), гісторыка, правадзейнага члена Інстытута беларускай культуры.

**95 гадоў** з дня нараджэння Івана Мележа (1921 – 1976), народнага пісьменніка Беларусі.

**1826 год.** Нарадзіўся Аляксандр Валіцкі (Вільня), выдавец, музычны крытык, спявак, удзельнік паўстання 1863-1864 гг.

### 9 ЛЮТАГА

**70 гадоў** з дня нараджэння (1946) Эдуарда Зарыцкага, кампазітара, народнага артыста Беларусі.

Марыя БЕРАСНЕВА.

УСПАМІНЫ

# Сястрыцы-птушкі сёння нестае...

**Мастак і выкладчык музыкі Юры Церабун напісаў успаміны пра сваю родную сястру Надзею.**

– Пра мужчын нашай сям'і пісалі многа, а пра Надзею ніхто не напісаў ні радка. Таму я хачу выправіць гэтую несправядлівасць, – падзяліўся Юрась Церабун.

*Сястрыцы-птушкі*
*сёння нестае,*
*У небе дзесьці высака*
*лунае.*
*Яна была анёлам*
*для мяне,*
*І ўспамін аб ёй душу*
*кранае.*

... Дзень нараджэння Надзеі супадаў з пачаткам вясны, таму кожны раз коцікі на галінках дрэў і першыя цюльпаны вельмі пасавалі да яе жаночай абаяльнасці, дабрыні і выхаванасці.

Надзея Васільеўна магла рабіць любую жаночую работу. Акрамя гэтага мела надзвычайныя здольнасці. Сама магла ствараць складаныя, шыкоўныя ўзоры для вязання і модныя на той час мадэлі жаночай і мужчынскай вопраткі, якую потым сама і шыла.

З-пад яе залатых рук выходзілі вышываныя ручнікі на абразы, фарбаваныя і пісаныя воскам велікодныя яйкі і духмяныя святочныя пірагі.

Спачатку працавала станочніцай на Смаргонскім лесазаводзе, а потым пераехала ў Маладзечна і ўладкавалася краўчыхай у швейнае атэлье "Бярозка".

Муж, **Іван Прыступа**, быў рабочым на вядомай фабрыцы музычных інструментаў, якая выпускала знакамітыя маладзечанскія гармонікі.

## У нашай сям'і заўсёды захапляліся прыгажосцю

У Надзеі расло мноства дагледжаных пакаёвых кветак, на падлозе ляжалі дыванкі, створаныя яе рукамі.

Яна вельмі шанавала скульптурны партрэт сына Сяргея, які выканаў брат Уладзімір. Ён стаяў на верхняй паліцы этажэркі пад абразамі. І гэта белізна гіпсу надавала вобразу маленькага Сяргея своеасаблівую святасць.

Твор мяне вельмі ўразіў. Кожны творца ведае, як гэта складана працаваць над дзіцячым партрэтам, а вось Уладзіміру ён удаваўся.


Фота забяспечанае Юрасем ЦЕРАБУНОМ.

Надзея Церабун спраўлялася з любой жаночай работай: выдатна шыла, вырошчвала кветкі, вязала.

Было выдатнае партрэтнае падабенства ў акадэмічнай манеры выканання і характэрны стан дзіцячага тварыка, хаця на той час Уладзімір нават не меў мастакоўскай адукацыі.

На сцяне вялікай залы іх двухпакаёўкі вісеў нацюрморт вядомага беларускага мастака з Гродна **Валянціна Савіцкага**. Гэта быў падарунак Уладзіміра на адзін з юбілеяў Надзеі.

Ніводны дзень нараджэння кожнага з нас не абыходзіўся без віншавання і ўвагі нашай сястрычкі. Заўсёды да падарунка яна дадавала паштоўку з вельмі шчырымі, цёплымі словамі.

Узгадваецца яе сціплае вяселле, якое справілі ў бацькоўскай хаце на хутары Свідравічы Смаргонскага раёна.

Не было тады сённяшніх вядучых з іх вульгарнымі жартамі, сучасных музыкантаў і спевакоў з мікрафонамі.

На тым вяселлі іграў вядомы і паважаны акардэаніст з вёскі Лісічына **Мечыслаў Багдановіч**, а цымбалістам быў брат Надзеі – я.

Калі Мечык пачынаў іграць на дудачцы з чароту, некаторыя нават плакалі.

Потым мне давялося ездзіць на ровары са Смаргоні ў Лісічына і браць у яго прыватныя ўрокі музыкі. Ён падарыў мне такую дудачку, але іграць адначасова на дудачцы і акардэоне я не змог.

Аказалася, гэта вельмі складана, хаця ў Мечыслава атрымлівалася без асаблівых цяжкасцяў.

Нават сёння не магу забыцца гучанне знакамітага марша "Развітанне славянкі" ў выкананні таленавітага народнага музыкі Мечыслава Багдановіча.

Сястра была глыбока веруючай жанчынай, і веру ў Бога, дабрачыннасць і высокія пачуцці сваёй душы яна ніколі не хавала.

А дома ўвесь час моўчкі ўсё шыла і шыла…

Людзі неслі такую старую вопратку, што, здавалася, лепш было яе проста выкінуць, а яны прасілі перавярнуць тканіну на іншы бок і зрабіць са старой рэчы што-небудзь новае.

Як правіла, плацілі за такую працу рэдка, ды і не прасіла аб гэтым Надзея. Рабіла ўсім, не адмаўляла – баялася чалавека пакрыўдзіць.

Так і жыла. Нікому не скардзілася на лёс, прафесію і хатнія цяжкасці. Здавалася, Надзея ўвесь час знаходзілася ў нейкім глыбокім роздуме.

Амаль кожныя выхадныя прыязджала да бацькоў у Смаргонь, каб дапамагчы нешта памыць, прыбраць у хаце, папрацаваць на агародзе.

Як ніхто з нас, братоў, у цяжкія хвіліны яна заўсёды была з бацькамі, хаця ў самой была сям'я і праца.

Так па жыцці яна маўкліва несла свой нялёгкі крыж.

Цяжка захварэў муж. Даводзілася не спаць начамі, каб кожную хвіліну можна было яму дапамагчы.

Стала падводзіць і сваё здароўе. Каб неяк палегчыць становішча, сын забірае бацькоў да сябе.

Але ні чыстае нарачанскае паветра, ні догляд сына і нявесткі не змаглі вярнуць ім страчаныя сілы.

Тут яны знайшлі свой вечны спачын на нарачанскай зямлі. Далёка ад роднай Смаргоншчыны і Маладзечна.

**Юрась ЦЕРАБУН, мастак, былы выкладчык музыкі.**

**ДАВЕДКА "РГ": Надзея Церабун** старэйшая і адзіная дачка Васіля і Антаніны Церабуноў. Сястра скульптара Уладзіміра Церабуна і мастака і музыкі Юрыя Церабуна.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Перамагла на турніры каманда "Мехатроніка".

ПАМЯЦЬ

# Калегі і сябры правялі турнір па міні-футболе ў памяць Дзяніса Шульгача

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Жыццё супрацоўніка вілейскай міліцыі год таму абарвала аварыя. Было яму толькі 25 год…**

– Дзяніс сапраўды быў светлым і радасным чалавекам. Мне хацелася б, каб ён такім жа заставаўся ў нашай памяці, – кажа намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**. – Ідэя правесці турнір ўзнікла таму, што Дзяніс захапляўся футболам, гуляў за каманды горада, райаддзела. Ідэю падтрымалі яго сябры і вырашылі правесці турнір у гэту гадавіну.

Правялі турнір 31 студзеня на выездзе – у Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры. Перад пачаткам гульняў памяць віляйчаніна ўшанавалі хвілінай маўчання.

Удзельнічалі ў турніры чатыры каманды. Адкрываў яго матч паміж "Юніёрам" і "Мехатронікай".

– Так супала, але якраз Дзяніс гуляў за "Юніёр" ў міні-футбол, за "Мехатроніку" – у вялікі футбол. Выступаў ён калісьці і за "Вілію" – дзеліцца старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

"Юніёр" валодаў ініцыятывай у матчы, больш атакаваў, але пастаянна быў у ролі даганяючага: гульцы "Мехатронікі" выдатна выкарыстоўвалі свае шанцы.

Першы тайм завяршыўся з лікам 3:1 на карысць "Мехатронікі". У другім тайме футбалісты "Юніёра" працягвалі атакаваць, скарацілі адставанне да 3:2, але з-за памылкі прапусцілі яшчэ адзін гол. Адыграць змаглі толькі адзін мяч. "Мехатроніка" выйграла з лікам 4:3.

Гульня аказалася ключавой на турніры. "Мехатроніка" выйграла ўсе матчы і стала пераможцай. Другое месца з дзвюма перамогамі заняў "Юніёр", трэцяе – у прадстаўнікоў райаддзела ўнутраных спраў. Толькі па розніцы мячоў саступілі ім юныя футбалісты з каманды "ДЮСШ Зеніт".

**Узнагароджвалі прызёраў адмысловымі медалямі і дыпломамі з фатаграфіяй Дзяніса.**

Разам з Кацярынай Млечкай уручала іх спадарожніца жыцця Дзяніса – **Надзея Шульгач**. Зразумела, і ёй уручылі медаль на памяць, а гульцы "Юніёра" перадалі Надзеі свой дыплом за другое месца.

– Дзяніс быў харошым чалавекам і добрым футбалістам, – прыгадвае капітан "Юніёра" **Віктар Сяліцкі**.

Турнір памяці Дзяніса Шульгача зробяць традыцыйным.

– Гэта абавязкова. Будуць удзельнічаць каманды райаддзела, сябroў Дзяніса і ўсіх, хто яго ведаў, – кажа Кацярына Млечка. – Спадзяюся, калі падрасце яго сын Мацвей, то ён збярэ сваю каманду на турнір. А Надзея шчыра дзякавала калегам і сябрам, што яны сабраліся і такім турнірам ушанавалі памяць Дзяніса.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота «РГ».

Мацвей Шастакоўскі з ясляў-садка №8.

АДУКАЦЫЯ

## Спаборнічалі даследчыкі сярод дашкольнікаў і малодшых школьнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Як уплывае музыка Моцарта на эмацыйны фон, як запамінаць новыя словы, як даць другое жыццё пластыкавым бутэлькам і ці сапраўды малако карыснае – такія тэмы ўздымалі сёлета юныя даследчыкі.**

Выхаванцы садкоў і вучні пачатковых класаў змагаліся ў раённым конкурсе даследчых работ "Разумнікі і разумніцы" ў аўторак, 2 лютага. Ён адбыўся ў маладзечанскай школе №14 і быў прымеркаваны да Дня беларускай навукі.

Даследчыя работы былі размеркаваныя сярод чатырох секцый: "Свет дашкольніка", "Юны прыродазнаўца", "Лічылкі" і "Лінгвісцёнак". Кожны ўдзельнік рыхтаваў адмысловы стэнд, у які адлюстроўваў сваю працу, і абараняў яго перад журы.

У секцыі для самых маленькіх канкурсантаў удзельнічалі чацвёра выхаванцаў дзіцячых садкоў горада і раёна. Яны прапанавалі праекты на тэмы пра мёд, ласункі, другое жыццё пластыку і малако.

Некаторыя праекты малодшых школьнікаў прадугледжвалі правядзенне эксперыментаў адразу на месцы. Напрыклад, замяралі пульс да праслухоўвання музыкі Моцарта і пасля. І прыходзілі да высновы, што пасля пульс спакайнейшы, а эмацыйны фон нармалізуецца. У іншым праекце даследчыкі вывучалі супергерояў розных пакаленняў. Былі праекты, прысвечаныя навучанню: адзін вучыў трохгадовых дзяцей лічыць, іншы прапаноўваў спосабы запамінання новых слоў.

**Даследчыкі прыроды прапаноўвалі, як вырасціць кавун, параўноўвалі прыродныя і штучныя фарбы, вывучалі карысць мюслі.**

Канкурсанты атрымалі дыпломы ўдзельнікаў. Усяго ўдзельнічала 15 праектаў. У кожнай секцыі і намінацыі журы абрала пераможцу.

У секцыі "Свет дашкольніка" перамог выхаванец дзіцячага садка №26 **Станіслаў Хруцкі** з працай "Піце, дзеці, малако, будзеце здаровы".

У секцыі "Юны прыродазнаўца" было дзве намінацыі. У намінацыі "Нежывая прырода" перамог вучань 2 "Б" класа СШ №9 **Мікіта Герасімюк** з работай "Фарбы ў палітры".

У намінацыі "Жывая прырода" выйграла праца "Чаму пазелянеў кран-клапан", якую распрацоўвалі вучні 4 "В" класа гімназіі №10 **Іван Шавель** і **Ларыса Белік**.

У секцыі "Лічылкі" перамог вучань 4 "А" класа гімназіі №7 **Герман Калядзіч** з даследаваннем "Што за цуда-прыбор".

У секцыі "Лінгвісцёнак" выйграў праект вучняў 3 "А" класа гімназіі №6 **Аліны Губіч**, **Аліны Лазар** і **Цімафея Вароніна** "Вузельчыкі на памяць".

**Аддзел інфармацыі.**

"КРУГЛЫ СТОЛ" "РГ"

# Чытачы далі перамогу Васілю Лябецкаму

**У конкурсе "Натхняй сваёй гісторыяй здароўя" перамог 66-гадовы аматар бегу з Маладзечна.**




Фота Наталі ТУР.

Васіль Лябецкі атрымлівае пры з ад Юрыя Міхасёнка, дырэктара "Лейбмю".

Для падвядзення вынікаў і ўручэння падарункаў рэдакцыя сабрала "круглы стол", на які запрасіла ўдзельнікаў конкурсу. Для кожнага з іх "РГ" падрыхтавала падарункі, а галоўны прыз для пераможцы ўручыў дырэктар прадпрыемства "Лейбмю" **Юры Міхасёнак**. Ручны вібрамасажор з насадкамі атрымаў 66-гадовы аматар бегу **Васіль Лябецкі**.

Пасля ўрачыстай часткі ўдзельнікі абмеркавалі праблемы, звязаныя з вядзеннем здаровага ладу жыцця, а таксама ролю "Рэгіянальнай газеты" ў развіцці папулярнасці фізічнай культуры і спорту ў рэгіёне.

Юры Міхасёнак адзначыў:

– Я бацька траіх дзяцей, і мяне ўжо шэсць год натхняюць тыя, хто ўкладае ў сваё здароўе. Няпраўда, што здароўе не залежыць ад нас. Ад нас залежыць і харчаванне, і ці робім мы зарадку, ці трымаемся рэжыму дня. Прыемна, што пераможца конкурсу трымаецца фізічнай нагрузкі ў сваім ўзросце.

**Аксана Ярашонак** адзначыла, што, калі б сама не ўдзельнічала ў конкурсе, то галасавала б за Васіля Лябецкага.

Васіль Лябецкі далучыўся да кампліментаў гаспадарам мерапрыемства, назваўшы "РГ" адной са справядлівых газет, якая не згладжвае вострыя вуглы.

Удзельнікі абмяркоўвалі стан культуры, у тым ліку фізічнай, сярод моладзі. Спадар Васіль падзяліўся назіраннямі, што раніцай парк нібы ў дымавой заслоне – навучэнцы, ідучы на заняткі, шмат кураць. Яго турбуюць і непаважлівыя адносіны паміж сабой сярод моладзі, асабліва брыдкаслоўе ў прысутнасці дзяўчат і калі самі дзяўчаты дазваляюць гэта сабе.

На думку пераможцы, прычына ў тым, што зніжаецца агульны ўзровень культуры, частка якой з'яўляецца фізічная культура.

Аксана параўнала ўзровень здаровага ладу жыцця ў вёсцы і ў горадзе. Жанчына лічыць, што ў вёсцы лепш бачныя любыя заганы і што пэўныя ўмовы для заняткаў ёсць. Ёсць бацькі, якія возяць на бокс у Маладзечна, на айкідо ў Мінск – было б жаданне, то і магчымасць знойдзеш.

Але Васіль Лябецкі ўсё ж палічыў, што платныя гурткі і секцыі могуць адбіваць частку магчымых наведнікаў.



Фота Наталі ТУР.

Аксана Ярашонак атрымлівае падарунак ад галоўнага рэдактара "РГ" Аляксандра Манцэвіча.

**Як прагаласавалі чытачы**

| Месца | Канкурсант | Адсотак | Колькасць галасоў |
|---|---|---|---|
| 1 | Васіль Лябецкі, Маладзечна | 44% | 90 |
| 2 | Аксана Ярашонак, Ілья Вілейскага раёна | 23% | 48 |
| 3 | Барыс Прадуха, Маладзечна | 22% | 45 |
| 4 | Аляксандр Быкаў, Мядзел | 11% | 22 |

У галасаванні пaўдзельнічала 205 чалавек.

### Пераможцы: што вас падштурхне

Аксана падзялілася тым, што яе да пахудзення на 30 кілаграмаў пасля родаў вельмі падштурхнулі "добрыя парады". Некаторыя знаёмыя ўпэўнівалі, што яна ніколі не верне ранейшую вагу, хай нават не тлуміць сабе галаву. Гэта толькі распаліла жанчыну і дапамагло дамагчыся выніку.

Удзельнікі пагадзіліся, што ў любым выпадку ў імкненні да здаровага ладу жыцця вельмі важная падтрымка сям'і.

– У кожнай сям'і трэба, каб быў турнік, – параіў Васіль Лябецкі. – Але ўсё трэба ў меру. Не варта бегаць так, што язык збоку боўтаецца, нібы піянерскі гальштук. Фізічныя практыкаванні павінны прыносіць задавальненне. І ніколі не глядзіце на тых, хто круціць пальцам вакол скроні. Мне гэтак жа круцілі. А калі бачылі, што за сталом амаль не п'ю, то ставілі на мне крыж – "хворы". Але ідуць гады, і паступова сыходзяць тыя, хто круцiў пальцам. А я працягваю бегаць і адчуваю сябе выдатна – лепшым у краіне ў сваёй узроставай групе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# тэлетыдзень

**8-14 лютага**

**27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"**



*Дарагія чытачы!*
*Тэлефануйце і пішыце ў "Рэгіянальную газету" пра тое, што вы хацелі б чытаць у "Тэлетыдні" Тэл. (0176)* **769667**

*Заходзьце на наш сайт, каб заўсёды быць у курсе апошніх навін*
**Rh.by**



● ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ТЭЛЕТЫДНЯ

## Брытані Мёрфі

Амерыканская актрыса і спявачка. Нарадзілася 10 лістапада 1977 года ў Атланце, Джорджыя, ЗША. Ужо ў дзевяць гадоў яна пачала іграць у мясцовым тэатры, а ў 13 падпісала першы кантракт з акцёрскім агенцтвам і пачала здымацца ў тэлевізійнай рэкламе.

Роляй-прарывам у вялікае кіно стала моладзевая камедыя "Бесталковыя" (1995). У 1998 годзе за выкананне галоўнай жаночай ролі ў тэлестужцы "Дэвід і Ліза" Брытані была намінаваная на прэмію "Young Artists Awards". Мёрфі шмат здымалася і ў кіно, і на тэлебачанні, як у драмах, так і ў камедыях. У 2002 годзе ўганараваная прэміяй "Малады Галівуд".

Ужо ў пачатку 1990-х яна выступала як салістка ўласнай рок-групы. Кампазіцыі гэтай групы і голас Брытані можна пачуць на саўндтрэках да фільмаў "Перарванае жыццё" і "Прагулкі з хлопцамі на аўтамабілях".

20 снежня 2009 года ва ўзросце 32 гадоў яна памерла ад сардэчнага прыступу ў сваім доме ў Лос-Анджэлесе. Яе пахавалі на галівудскіх узгорках. У 2014 годзе быў зняты тэлефільм "Гісторыя Брытані Мёрфі".

У лютым 2010 года маці і муж Брытані заснавалі дабрачынны фонд у памяць аб актрысе. Грошы з яго ідуць на навучанне дзяцей з няпоўных сямей акцёрскаму майстэрству і мастацтву.



Фота kinodrive.com.

### Беларусь 3

**Панядзелак, 8 лютага**

**7.25** Мультфільмы.
**8.00** "Калейдаскоп".
**8.15** "Гісторыя Беларусі".
**8.25** "**ПРАКАЖОНАЯ**". Польшча, 1976 .
**9.55** Хіт-парад "Сто песень для Беларусі".
**10.50** "Наперад у мінулае".
**11.15** "Размаўляем па-беларуску".
**11.50** "Музеі Беларусі". Мазырскі аб'яднаны краязнаўчы музей.
**12.20** "Калейдаскоп".
**12.35** "Размаўляем па-беларуску".
**12.40** "Іван Мележ. Туманы над багнаю". Дакументальны фільм.
**13.10** "**ЧЫРВОНЫ ПСАЛОМ**". Ваенная драма Венгрыя, 1972 .
**14.35** "Рускі да Вінчы". Дзмітры Іванавіч Мендзялееў.
**15.05** "**ПОЛЫМЯ**". Частка 1-я СССР, 1974 .
**16.20** "Палявая пошта памяці". Васіль Корж і яго зорка.
**16.50** "**ПОЛЫМЯ**". Частка 2-я СССР, 1974 .
**18.05** "Дыя@блог". "Пра мову".
**18.30** "Калейдаскоп".
**18.45** "Танк на Месяцы". Дакументальны фільм.
**19.30** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 5-я серыя "Сумёты на дарогах" СССР, 1984 .
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Размаўляем па-беларуску". Тэлевіктарына.
**21.35** "Час кіно".
**21.40** "**Я РОДАМ З ДЗЯЦІНСТВА**". Ваенная драма СССР, 1966 .
**23.10** "Дыя@блог". "Пра мову".
**23.35** "Іван Мележ. Туманы над багнаю". Дакументальны фільм.
**0.05** "Калейдаскоп".
**0.20** "Геапалітыка: свет за тыдзень".

**Аўторак, 9 лютага**

**7.20** Мультфільмы.
**8.00** "Калейдаскоп".
**8.15** "Гісторыя Беларусі".
**8.25** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 5-я серыя "Сумёты на дарогах" СССР, 1984 .
**9.30** "Рок". Барыс Грабеншчыкоў, Юрыя Шаўчук, ВіктараЦоя, Алег Гаркуша, Антон Адасінскі.
**10.55** "**МОЙ СЯБАР ІВАН ЛАПШЫН**". Драма СССР, 1984 .
**12.30** "Святло далёкай зоркі". Іван Мележ.
**13.00** "Калейдаскоп".
**13.15** "Размаўляем па-беларуску".
**13.20** "Час кіно".
**13.30** "**Я РОДАМ З ДЗЯЦІНСТВА**". Ваенная драма СССР, 1966 .
**15.00** "Кіно і час". І з'езд РСДРП.
**15.40** "Доблесць зямлі беларускай". "Штурм "Мядзведжага валу".
**15.55** "**ФЕДРА**". ЗША, Францыя, Грэцыя, 1962 .
**17.50** "Дыя@блог". "Пра вечнае".
**18.15** "Калейдаскоп".
**18.30** "Размаўляем па-беларуску".
**18.40** "На сопках Маньчжурыі". Пра малавядомыя старонкі руска-японскай вайны.
**19.30** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 6-я серыя "Калядныя маразы" СССР, 1984 .
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "На сопках Маньчжурыі".
**21.55** "**ЧЫРВОНЫЯ ЗВАНЫ**". Фільм першы "Мексіка ў агні" СССР, 1982 .
**0.00** "Дыя@блог". "Пра вечнае".
**0.25** "Калейдаскоп".

**Серада, 10 лютага**

**7.20** Мультфільмы.
**8.00** "Калейдаскоп".
**8.15** "Гісторыя Беларусі".
**8.20** "Размовы пра духоўнае".
**8.30** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 6-я серыя "Калядныя маразы" СССР, 1984 .
**9.35** "Святыні Беларусі". Спаса-Праабражэнскі храм святой прападобнай Еўфрасінні Полацкай.
**10.05** "**ЧЫРВОНЫЯ ЗВАНЫ**". Фільм першы "Мексіка ў агні" СССР, 1982 .
**12.15** Прэм'ера. "Святло далёкай зоркі". Сяргей Жураўлёў.
**12.40** "Калейдаскоп".
**12.55** "Размовы пра духоўнае".
**13.05** "Барыс Пастарнак. Выбар шляху".
**13.35** "**ФЕДРА**". ЗША, Францыя, Грэцыя, 1962 .
**15.25** Творчы вечар народнага артыста СССР Уладзіміра Зельдзіна.
**16.40** "**СВІНАРКА І ПАСТУХ**". СССР, 1941 .
**18.05** "Дыя@блог". "Пра прыгожае".
**18.35** "Калейдаскоп".
**18.50** "Адваротны бок Месяца". Пра вядомых вучоных XIX - XX стагоддзяў. "Першы фізік Расіі".
**19.35** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". Кінаэпапея. 7-я серыя. "Дні надзей" СССР, 1984 .
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Адваротны бок Месяца". Пра вядомых вучоных XIX - XX стагоддзяў. "Першы фізік Расіі".
**21.40** "**ЧЫРВОНЫЯ ЗВАНЫ**". Фільм другі "Я бачыў нараджэнне новага свету". СССР, 1982 .
**23.50** "Дыя@блог". "Пра прыгожае".
**0.15** "Калейдаскоп".

**Чацвер, 11 лютага**

**7.20** Мультфільмы.
**8.00** "Калейдаскоп".
**8.15** "Гісторыя Беларусі".
**8.20** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 7-я серыя. "Дні надзей" СССР, 1984 .
**9.30** "Свет прыроды". Браслаўскія азёры.
**9.55** "**ЧЫРВОНЫЯ ЗВАНЫ**". Фільм другі "Я бачыў нараджэнне новага свету". 1-я і 2-я серыі. СССР, 1982 .
**12.10** "Святло далёкай зоркі". Валяр'яна Жолтак.
**12.40** "Калейдаскоп".
**12.55** "Размаўляем па-беларуску".
**13.00** "**НАСЛЕДНІЦА ПА ПРАМОЙ**". Кінааповесць СССР, 1982 .
**14.35** "**ЦЫРК**". СССР, 1936 .
**16.05** "Сіла веры".
**16.35** "Жоўтая падводная лодка". Музычны мультфільм.
**18.00** "Навукаманія". Медыцына XXI стагоддзя.
**18.25** "Калейдаскоп".
**18.40** "Размаўляем па-беларуску".
**18.50** "Адваротны бок Месяца". Пра вядомых вучоных IX - XX стагоддзяў. "Высокашаноўны прафесар, глыбокаабажаемы Луі".
**19.30** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 8-я . "Глыбокая баразна" СССР, 1984 .
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Адваротны бок Месяца". Пра вядомых вучоных XIX - XX стагоддзяў. "Высокашаноўны прафесар, глыбокаабажаемы Луі".
**21.40** "**АПОШНЯЯ ДАРОГА**". СССР, 1986 .
**23.15** "Навукаманія". Медыцына XXI стагоддзя.
**23.45** "Калейдаскоп".

**Пятніца, 12 лютага**

**7.25** Мультфільмы.
**8.00** "Калейдаскоп".
**8.15** "Гісторыя Беларусі".
**8.20** "**ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ. ПАЛЕСКАЯ ХРОНІКА**". 8-я с. "Глыбокая баразна" СССР, 1984 .
**9.30** "Аўтограф". Міхаіл Дрынеўскі.
**10.00** "**АПОШНЯЯ ДАРОГА**". СССР, 1986 .
**11.35** "Святло далёкай зоркі". Ісідор Балоцін.
**12.05** "Калейдаскоп".
**12.20** "Размаўляем па-беларуску".
**12.25** "Сіла веры".
**12.55** "Рэпартаж са свету раслін".
**13.10** "Жоўтая падводная лодка". Музычны мультфільм.
**14.40** "Шлягеры на ўсе часы". "Запомни этот миг". Канцэрт з твораў Мікаэла Тарывердзіева.
**15.55** "Справы фамільныя". Ударнікі капіталістычнай працы.
**16.25** "**НАСЛЕДНІЦА ПА ПРАМОЙ**". Кінааповесць СССР, 1982 .
**17.55** "Камертон". Ілля Курган.
**18.25** "Калейдаскоп".
**18.40** "Адваротны бок Месяца". Пра вядомых вучоных XIX - XX стагоддзяў. "Абсалютная велічыня".
**19.25** "**ДРЭВЫ НА АСФАЛЬЦЕ**". Сямейная меладрама СССР, 1984 .
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Адваротны бок Месяца". Пра вядомых вучоных XIX - XX стагоддзяў. "Абсалютная велічыня".
**21.40** "**КІН-ДЗА-ДЗА**". Камедыя. 1-я і 2-я серыі СССР, 1986 .
**23.50** "Калейдаскоп".

**Субота, 13 лютага**

**8.00** "Калейдаскоп".
**8.15** "**ПАЛЮБОЎНІЦА З МАСКВЫ**". Камедыя Расія, 2001 .
**9.20** "Беларусы - Героі Савецкага Саюза".
**10.15** "**БРАТУШКА**". СССР, 1975 .
**11.30** "Размаўляем па-беларуску".
**12.05** "Калейдаскоп".
**12.20** "... пасля Візантыі". Пра ролю візантыйскай цывілізацыі ў фарміраванні культур еўрапейскіх народаў.
**13.50** "Час кіно".
**13.55** "**ВЯЛІКАЯ-МАЛАЯ ВАЙНА**". Малдова, 1980 .
**15.20** "Камертон". Фатограф Юрый Іваноў.
**15.50** "**ПАЛЮБОЎНІЦА З МАСКВЫ**". Камедыя Расія, 2001 .
**16.55** "Калейдаскоп".
**17.10** "Камертон". Арман Асенаў.
**17.40** "**КАНЕЦ АТАМАНА**". СССР, 1970 .
**20.00** Леанід Млечын прадстаўляе. "Адна ноч і усё жыццё. Марыя Спірыдонава".
**20.40** "Калыханка".
**21.00** "Адваротны бок Месяца". Дакументальны фільм пра вядомых вучоных XIX - XX стагоддзяў. "Чалавек, які ўзважыў святло" заключны).
**21.40** "**МОСТ**". Ваенная драма Расія, 2008 .
**23.20** "Бард-парад".
**0.00** "Калейдаскоп".

**Нядзеля, 14 лютага**

**8.00** "**НЕСТАР БУРМА**". Францыя, 1994 .
**9,30** "Подых струн". Андрэй Карповіч, Сціў і Ганна Крамер, Андрэй Маркуц.
**10.10** "Наперад у мінулае".
**10.35** Хіт-парад "Сто песень для Беларусі".
**11.30** "Музеі Беларусі". Філіялы Мазырскага аб'яднанага краязнаўчага музея.
**11.55** "**ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА**". Камедыя Расія, 2000 .
**13.00** "Мой бацька - Юрый Цвяткоў". Дакументальны фільм.
**13.55** "**КАНЕЦ АТАМАНА**". 1-я і 2-я серыі СССР, 1970 .
**16.15** "Кіно і час". Рудабельская рэспубліка.
**16.55** "**СЛУЖЫЛІ ДВА ТАВАРЫШЫ**". СССР, 1968 .
**18.30** "**КІН-ДЗА-ДЗА**". СССР, 1986.
**20.40** "Калыханка".
**21.00** Канцэрт ансамбля "Сябры".
**21.55** "**НЕСТАР БУРМА**". Францыя, 1994 .
**23.25** Леанід Млечын прадстаўляе. "Адна ноч і усё жыццё. Марыя Спірыдонава".



### ТБ Маладзечна

**Понедельник, 8 февраля**

**19.00, 20.00, 21.30** Новости: время местное. **19.20** Беларускія народныя строі. **20.25** Афиша. **20.30** Между прочим. **21.50** Тайм-Арт.

**Вторник, 9 февраля**

**6.30** Новости:время местное. **6.50** Беларускія народныя строі. **6.55** Песня на завтрак. **7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 21.30** Новости: время местное. **7.20** Между прочим. **7.30** Сказки тетушки Элли. **8.20** Афиша. **19.20** 1+1. Интервью с заместителем начальника Минской областной инспекции охраны животного и растительного мира Р.Зубаировым. **20.20** Творческий вечер, посвященный 80-летию краеведа Г.Кохановского. **21.50** Свет души.

**Среда, 10 февраля**

**6.30, 7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 21.30** Новости: время местное. **6.50, 8.20** Между прочим. **7.20** Афиша. **19.20, 20.20** Музыкальная открытка. **21.50** На страже.

**Четверг,11 февраля**

**6.30, 7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 21.30** Новости: время местное. **6.50** Песня на завтрак. **7.20** Между прочим. **7.30, 19.20** Беларускія народныя строі. **8.20** Афиша. **19.30** На страже. **20.20** Творческий вечер, посвященный 80-летию краеведа Г.Кохановского. **21.50** Свет души.

**Пятница, 12 февраля**

**6.30, 7.00, 8.00** Новости: время местное. **6.40** Между прочим. **6.50, 21.50** Афиша. **7.20** Сказки тетушки Элли. **8.20** Беларускія народныя строі. **19.00, 20.00, 21.30** Новости:время местное. **19.20, 20.20** Музыкальная открытка.

**Суббота, 13 февраля**

**6.30, 7.00, 8.00, 19.00, 21.30** Новости: время местное. **6.50** Между прочим. **6.55, 21.05** Беларускія народныя строі. **7.20, 21.10** Сказки тетушки Элли. **8.20** Афиша. **19.20** Желаем вам. **21.50** Свет души.

